


# БЕЛАРУС

№448 • Кастрычнік–Лістапад 1997 г.
Год выд. 47


## ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА!

### ЛІСТ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ АБ АДСТАЎЦЫ ЛУКАШЭНКІ

Яшчэ год таму назад я не зьвярнуўся-б з такім лістом да беларускіх людзей. Бо яшчэ жыло ў іх перакананьне, што яны зрабілі разумна й правільна, выбраўшы Лукашэнку, што «прэзыдэнту перашкаджаюць», што вінаваты ва ўсім ня ён, а таемныя «ворагі». Відавочна, яшчэ ня ўсе камяньні былі кінутыя і ў мой бок, як «ворага прэзыдэнта». Воляй лёсу мне прыходзілася папярэджваць яшчэ ў 80-х гадох аб злачыннасьці КПСС і аб немінучасьці распаду Савецкага Саюзу. Потым — аб здрадніцтве й прамаскоўскай палітыцы Кебіча, аб небясьпецы расейскага імпэрыялізму, аб плянах усталяваньня прамаскоўскай паліцэйскай дыктатуры Лукашэнкі на Беларусі, аб пагрозе незалежнасьці й дзяржаўнаму існаваньню нашай краіны, аб задуме аднаўленьня таталітарызму на абшарах былога СССР. Гэта, паўтараю, сказана не цяпер, а два, тры, пяць, дзесяць гадоў назад. Але нашаму грамадзтву, відаць, наканавана спачатку нічога ня ўспрымаць, а потым усё няўспрынятае — перажыць. І гэтак — бясконца.

Ці не настаў усё-ж час прыняць правільнае калектыўнае рашэньне?

Мне скажуць: калі ты думаеш правільна — чаму-ж ты не перамог? Перамога наперадзе. Але справа ня ў гэтым. Я не перамог разам з вамі. Мы разам пацярпелі паражэньне. У 1994 годзе прымітыўна ашукалі ўвесь беларускі народ. А тыя, хто гэтае ашуканства бачыў і разумеў, нічым не маглі дапамагчы. Колькі-ж яшчэ трэба часу, якіх ахвяраў, якіх страт, якіх зьняваг нашай беларускай годнасьці, якога яшчэ трэба пагаршэньня, каб гэтае ашуканства ўсьвядоміць і зразумець? Ці не пара?

Пытаньне аб немінучай адстаўцы Лукашэнкі зноў пастаўленае Народным Фронтам. Цяпер ужо ня дзейнічае прававы мэханізм «імпічманту», бо ўсталявана дыктатура. Але з дыктатурай можна пасьпяхова змагацца сілавым масавым грамадзкім націскам на дыктатара ва ўсіх сфэрах жыцьця — у палітыцы й грамадзкай дзейнасьці, у навуцы й мастацтве, у прафсаюзным руху й на працы, на вуліцах і ў друку, нават у быце й штодзённых дачыненьнях. Усё павінна быць падпарадкаванае адной мэце: «Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!»

Падтрымлівайце ў гэтых дзеяньнях і палітыцы Беларускі Народны Фронт — Вызвольны Рух, які трымае ў руках нацыянальны сьцяг беларускага Адраджэньня. Падтрымлівайце актыўна. Перад нашай масавай сілай і агульным няпрыняцьцем дыктатуры шмат што пачне зьмяняцца. Нават хаўрусьнікі Лукашэнкі стануць ад яго адлазіцца й яго пакідаць. Яго загады перастануць выконваць нават тыя, на каго ён спадзяецца. Зямля паплыве з-пад ног гэтага авантурнага чалавека. Адстаўка стане рэальнай.

Аднак, змагаючыся за адстаўку Лукашэнкі, мы павінны памятаць, што галоўная наша палітычная задача, якую ўвесь час сьцьвярджае Народны Фронт і да чаго мы імкнемся, гаворачы пра адстаўку, — гэта ліквідацыя ўвогуле прэзыдэнцкай сыстэмы ў Беларусі й скасаваньне пасады прэзыдэнта. Беларусь мусіць быць не прэзыдэнцкай, а парляманцкай краінай. Інакш узьнікне новы дыктатар (ці паўдыктатар) і новая маскоўская марыянэтка.

Чаму? — спытаеце вы. Таму што, па-першае, Маскве й яе спэцслужбам лёгка ўмяшацца й уплываць на ход падзеяў, калі абіраюць на найвышэйшую пасаду аднаго чалавека, а не 260. Правёўшы свайго чалавека на беларускі пасад (як гэта лоўка зрабілі яны з Лукашэнкам), маскоўцы будуць аб'ектыўна зацікаўленыя ў павялічэньні яго ўлады, каб лепш трымаць Беларусь.

Парлямант у 260 асобаў (ды з розных партыяў) ня можа стаць дыктатарам. Парляманцкая сыстэма ўжо па самой сваёй фармальнай сутнасьці прадугледжвае элемэнты дэмакратыі. Гэта шлях да дэмакратыі й школа дэмакратыі для грамадзтва.

І трэба ўлічыць, што нашага грамадзтва — постсавецкае. Наш чалавек за часы расейскай і бальшавіцкай акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкам рэжыме, дзе галоўнаю была ўлада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі й спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыцьцяўленьня права, роўнага для ўсіх (для начальнікаў і неначальнікаў). Гэткія грамадзкія акалічнасьці якраз і спрыяюць ажыцьцяўленьню дыктатуры. Шляхам-жа да яе ў такіх варунках служыць прэзыдэнцкая сыстэма ўлады. Пра гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі ў 1991 годзе, калі ў атачэньні Кебіча ўпершыню ўзьнікла ідэя прэзыдэнцтва, і ў 1994 годзе, калі Вярхоўны Савет галасаваў за Канстытуцыю.

Пасьля адстаўкі (ці адхіленьня) Лукашэнкі ад пасады адразу павінны быць праведзены парляманцкія выбары. Выбары новага парляманту па старым, недасканалым выбарчым законе будуць, безумоўна, няпростыя, але ў цэлым прадказальныя, каб гарантаваць зьмену паламанай парляманцкай Канстытуцыі 1994 году (у частцы разьдзела аб прэзыдэнце) і вярнуцца да парляманцкай рэспублікі. Парлямант фармаваў-бы ўрад і прызначаў-бы прэм'ер-міністра, які валодаў-бы функцыямі кіраўніка дзяржавы. У выпадку парляманцкага крызысу й немагчымасьці стварыць урад, рашэньне аб роспуску парляманту й новых выбарах прымае Канстытуцыйны Суд. Гэткая традыцыйная парляманцкая сыстэма стала-б для беларусаў крокам наперад, крокам да лепшай будучыні.

Беларускі Народны Фронт прапануе беларусам абапірацца перш за ўсё на самім сябе й праводзіць такую палітыку, якая забясьпечвала-б становішча людзей і ўзровень жыцьця, як у эўрапейскіх краінах, а не як у Расеі. Дзеля гэтага й супрацоўнічаць трэба найперш з Эўропай, і рабіць шмат што гэтак, як яны, бо мы, беларусы, — народ эўрапейскі.

Змагаючыся з дыктатурай, мы павінны сваё змаганьне засьведчваць. Гэта пазбаўляе людзей страху й надае ўпэўненасьці, кансалідуе аднадумцаў. Лукашэнка й яго памагатыя павінны ведаць, што людзі іх не баяцца й адкрыта патрабаюць, каб прэзыдэнт ішоў у адстаўку. Прапаную сьмела далучацца да ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту аб адстаўцы Лукашэнкі й ліквідацыі дыктатуры ў Беларусі.

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

*8 лістапада 1997 г.*

ПРОСІМ ДАСЫЛАЦЬ
**КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ**
**ДА 15-ГА СЬНЕЖНЯ**

Рэдакцыя

## «НАША СЛОВА» ЗНОЎ ЗАГУЧАЛА

З лістапада аднавіўся выхад друкаванага органу Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны — газэты «Наша слова». Сёньняшнія ўлады Беларусі ўсяляк імкнуцца выкараніць беларускі дэмакратычны друк — ці то шляхам прамых забаронаў, як адбылося з газэтаю «Свабода», ці то праз фінансавыя перашкоды, як было зроблена ў дачыненьні да «Нашага слова». Аднак ахвярнасьць соцень людзей, у тым ліку суайчыньнікаў з Вольнага Сьвету, дапамагла аднавіць выданьне. Удалося гэта зьдзейсьніць у Лідзе пад рэдактарствам Станіслава Судніка.

З прычыны выхаду газэты не ў сталіцы, а ў раённым цэнтры, выдаўцы адразу-ж сутыкнуліся з праблемаю распаўсюджваньня, якая да сёньняшняга дня вырашаецца зь цяжкасьцю. Але газэта жыве, і рэдакцыя выказвае шчырую падзяку сваім спонсарам.

***Шаноўныя суайчыньнікі!***

*Шчыра дзякуем за сяброўскую падтрымку Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны ў цяжкі для яго час. І Ваша спрыяньне яго дзейнасьці дапамагло, у прыватнасьці, таму, што аднаўлены выпуск газэты «Наша слова» і зноў пачаў працаваць у цэнтры Менска шапік, дзе прадаюцца практычна ўсе беларускамоўныя выданьні.*

*Спадзёмся, што наша супрацоўніцтва на карысьць духоўнага адраджэньня Бацькаўшчыны ў імя яе росквіту будзе працягвацца.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя й вялікага шчасьця.*

**Генадзь Бураўкін,** Старшыня ТБМ
**Сакратарыят ТБМ**

***Шаноўныя Зора й Вітаўт Кіпелі!***

*Даўно ведаем Вас як самаахвярных руплўцаў на ніве беларускай культуры, як шчырых і дасьведчаных працаўнікоў нашага Адраджэньня. Яшчэ раз мы ўсё гэта адчулі ў вельмі цяжкі й складаны для нашага Таварыства час.*

*Ваша сяброўскае разуменьне нашых праблем, Ваша вельмі своечасовая й рэальная падтрымка нашай дзейнасьці ў многім паспрыялі таму, што Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны працуе й імпэт наш не згасае.*

*Шчыра дзякуем Вам за Вашы стараньні, за Вашу дапамогу.*

*Зычым Вам здароўя, нястомнасьці, вялікіх посьпехаў.*

**Генадзь Бураўкін,** Старшыня ТБМ
**Сакратарыят ТБМ**

(Сьпіс ахвярадаўцаў друкуецца на с. 4)

# З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЦЯ

## СКАРЫНАЎСКІ ЮБІЛЕЙ У ПРАЗЕ

5-га верасьня ў Празе, у памешканьні Нацыянальнай Бібліятэкі Чэхіі, адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная 480-годзьдзю беларускага кнігадрукаваньня — выхаду першае кнігі Францішка Скарыны ў жніўні 1517 году. Арганізатарам канфэрэнцыі й урачыстасьцяў: выставак, музычнае й літаратурнае праграмы — была Славянская Бібліятэка разам зь мясцовым беларускім таварыствам, якое ўзначальвае сп. Юрка Станкевіч.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел скарынаведы й беларусазнаўцы зь Беларусі, Чэхіі, Летувы, Польшчы, Расеі ды ЗША. Былі зачытаныя даклады з новымі адкрыцьцямі ў Скарыніяне, падагульненьні ды высьвеньня шматлікія праблематычныя пытаньні Скарыніяны й акрэсьлены сучасны стан дасьледаваньняў. Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў канфэрэнцыі бралі ўдзел Вітаўт і Зора Кіпелі.

## СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАНЬНІ Ў ПОЛАЦКУ

10–11-га верасьня ў Полацкім музэі гісторыі беларускага кнігадруку адбыліся Трэція Скарынаўскія чытаньні, прысьвечаныя 480-годзьдзю запачаткаванага Францішкам Скарынам беларускага кнігадрукаваньня ў Празе ў жніўні 1517 году.

У гэтай міжнароднай канфэрэнцыі бралі ўдзел навукоўцы з ЗША, Расеі, Летувы, Польшчы ды Латвіі, а зь Беларусі на канфэрэнцыі былі дасьледнікі з унівэрсытэтаў Менска, Горадні, Гомеля, Полацка. Апрача пленарнага паседжаньня, адбылося некалькі паседжаньняў розных сэкцыяў, на якіх было зачытана колькі дзясяткаў дакладаў. Узровень гэтае канфэрэнцыі быў сапраўды высокаакадэмічны, быў прадстаўлены шэраг новых павкдамленьняў у дасьледаваньні Скарыніяны. Удзельнікі канфэрэнцыі былі таксама запрошаныя на выдатны канцэрт арганнай музыкі ў Сафійскім саборы, агледзелі некалькі тэматычных выставак ды адбылі ўрачыстасьць складаньня вянка каля помніка Беларускага Першадрукара.

З дакладамі на канфэрэнцыі выступалі таксама прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША сп-ня Зора Кіпель і сп. Вітаўт Кіпель. Даклад З.Кіпель быў на тэму «Скарынаўскія й скарынаведныя друкі ў амэрыканскіх бібліятэках», а даклад В.Кіпеля — «Пачаткі й сёньняшні стан скарыназнаўства на Захадзе».

У часе канфэрэнцыі д-ру Вітаўту Кіпелю як старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва была ўручаная грамата ўдзячнасьці за супрацоўніцтва паміж Полацкім Унівэрсытэтам і БІНІМам.

## МІЖНАРОДНЫЯ КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАНЬНІ Ў МЕНСКУ

20–21-га кастрычніка ў Менску праходзілі Трэція Міжнародныя Купалаўскія чытаньні, арганізаваныя Дзяржаўным літаратурным музеем імя Янкі Купалы. Асноўнай тэме чытаньняў «Янка Купала — публіцыст» былі прысьвечаныя каля двух дзясяткаў дакладаў навукоўцаў зь Беларусі, Польшчы, Летувы, Расеі ды ЗША. Ва ўступным дакладзе народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выдатна азначыў Купалу як публіцыста, званара-будзіцеля нацыянальнай рэвалюцыі, адраджэньня. Ніл Гілевіч падкрэсьліў трагізм творчага лёсу Купалы-публіцыста, бо гэты бок ягонае дзейнасьці быў забаронены савецкай уладай. «Купала як публіцыст нацыянальнага адраджэньня ня быў ведамы беларускаму народу, беларускаму літаратару, вучню, — вёў Ніл Гілевіч, — а ў гэтым вялізарная шкода нашаму руху, бо мільёны вучняў, праходзячы ў школьных праграмах працэнзураванага Купалу, прост ня ведалі ягоных нацыянальных пачуцьцяў, асьпірацыяў».

Удзельнікі канфэрэнцыі з Амэрыкі сп-ва Зора й Вітаўт Кіпелі выступілі з дакладам і ўспамінамі. Даклад Вітаўта Кіпеля быў прысьвечаны тэме «Ўспрыняцьцё Я. Купалы ў дыяспары». Дакладнік азнаёміў канфэрэнцыю з купалаведнымі працамі на Захадзе, падкрэсьліўшы, што беларуская эміграцыя ніколі ня прымала савецкага пагляду на Купалу, што пясьняр, маўляў, пагадзіўся з савецкай уладай.

Сп. В.Кіпель сказаў, што эміграцыя глядзела на Купалу як на зьняволенага ўладай, а на ягоную творчасьць савецкага перыяду як на *некупалаўскую*.

Сп-ня З.Кіпель падзялілася ўспамінамі зь дзяцінства, калі яе мама, Апалёнія Раткевіч, працавала выхавальніцай у дзіцячым садку. Кіравала садком жонка Я.Купалы, сп-ня Ўладзіслава Луцэвіч — цёця Ўладзя, як яе называлі дзеці, а сам садок знаходзіўся амаль на тым самым месцы, дзе цяпер музэй Янкі Купалы. З.Кіпель асабліва падкрэсьліла мамэнт, які ўрэзаўся ў памяць дзіцяці, як аднойчы цёця Ўладзя й Апалёнія Раткевіч (мама З.Кіпель) вельмі плакалі. Было гэта недзе ў 1931–32 годзе, якраз калі Купала быў «у апале». Іншая цікавая дэталь з тых дзіцячых часоў: Зора, бываючы ў Купалавы доме, вельмі любіла гуляць з каляровымі каменьчыкамі, якія Янка Купала прывозіў зь мясьцінаў адпачынку, курортаў. Штуршком да ўспамінаў З.Кіпель былі фатаграфіі дзіцячага садка, якія перахоўваюцца ў музэі Янкі Купалы.

У часе канфэрэнцыі ў музэі дзеілі й карысталіся вялізарным посьпехам некалькі выставак, сярод якіх асабліва выдзялялася экспазыцыя, прысьвечаная беларускай Вільні.

## 75-ГОДЗЬДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ БІБЛІЯТЭКІ

23–24-га кастрычніка Нацыянальная Бібліятэка Беларусі сьвяткавала свой 75-гадовы юбілей. Адзначэньне было заплянаванае вельмі шырака й прайшло сапраўды ўдала. Найперш у тым самым часе адбывалася міжнародная навуковапрактычная канфэрэнцыя на тэму «Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы». У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел бібліятэкары ды ўрадоўцы розных культураведных і адукацыйных установаў з больш як дзясятка краінаў. Нью-Ёркскую Публічную Бібліятэку рэпрэзэнтавала З.Кіпель, а Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва д-р В.Кіпель. Прадстаўнікі ЗША зачыталі два даклады: З.Кіпель — «Бібліяграфія беларускае дыяспары», а В. Кіпель — «Беларускія кнігазборы ЗША: публічныя, дасьледчыя, спэцыяльныя й прыватныя бібліятэкі».

Апрача працоўнае канфэрэнцыі, у Бібліятэцы былі наладжаныя выстаўкі, паказаны дакумэнтальны фільм з гісторыі Бібліятэкі. У гэты-ж час у горадзе праходзіла прэм'ера новае гістарычнае п'есы А. Дударава «Князь Вітаўт» ды іншыя мерапрыемствы. Юбілей Нацыянальнае Бібліятэкі быў зладжаны вельмі ўдала, за што належыць падзякаваць арганізатарам ды кіраўніцтву Бібліятэкі.

## ПРАСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Напрыканцы кастрычніка Старшыня БНФ Зянон Пазьняк і сябра Сойму БНФ Сяргей Навумчык правялі шэраг палітычных спатканьняў у Празе.

На сустрэчы з кіраўніком адміністрацыі Прэзыдэнта Іванам Мэдэкам было ўзьнята пытаньне палітычных уцекачоў зь Беларусі, якія ўжо зьявіліся ў Чэхіі. Некаторым зь іх чэскі ўрад ужо прадаставіў палітычны прытулак. Спадар Мэдэк выказаў заклапочанасьць узмацненьнем дыктатуры ў Беларусі, заявіўшы, што гэта можа стварыць няпростую сытуацыю ва ўсходнеэўрапейскім рэгіёне.

Зь дзеячамі БНФ спаткаўся й кіраўнік Сэнату сп. Пэтэр Підгард, які, паводле Канстытуцыі, зьяўляецца другой асобаю ў дзяржаве. Зь ім было дамоўлена пра арганізацыю мэханізму ўплыву на менскі рэжым праз эўрапейскія парляманцкія дэлегацыі, асабліва ў справе, што тычыцца дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце. Гэтая-ж праблема закраналася й на спатканьні з прадстаўнікамі міністэрства замежных справаў.

Падчас свайго знаходжаньня ў Празе Зянон Пазьняк даў шэраг інтэрвію газэтам, выступіў у праграме першага каналу чэскай тэлевізіі, дзе, акрамя яго, бралі ўдзел міністар абароны й міністар працы Чэхіі. Штотыднёвік «Рэспэкт» прысьвяціў Беларусі адмысловы выпуск, надрукаваўшы, паміж іншым, урывак з забароненай у Беларусі новай кнігі Васіля Быкава й інтэрвію зь Зянонам Пазьняком.

Паводле словаў Пазьняка, у адрозьненьне ад леташніх чэскіх спатканьняў, цяперашнія сустрэчы выявілі значна вышэйшую ступень разуменьня чэскімі палітыкамі той небясьпекі, якую нясе рэжым Лукашэнкі для эўрапейскай і міжнароднай супольнасьці.

Г.П.

## ПАСЕДЖАНЬНЕ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР

адбылося 15 лістапада ў Нью-Брансвіку. Яго ўдзельнікі заслухалі справаздачы Старшыні Рады Івонкі Сурвіллы, а таксама яе намесьнікаў Вітаўта Кіпеля й Сяргея Навумчыка.

Час пасьля апошняй, 22-ой, сэсіі Рады БНР для сябраў Рады быў даволі насычаны палітычнай працай. Галоўнаю яе мэтаю застаецца дапамога беларускай дэмакратыі праз уплыў на ўрадавыя й грамадзкія структуры замежных краінаў. Аднак як выявілася, усьведамленьне таго, што ў Беларусі пануе таталітарызм, яшчэ не азначае, што ўсе краіны Захаду будуць спрыяць беларускай апазыцыі. На гэтым засяродзіла ўвагу сп-ня Сурвілла, распавёўшы пра ўласны досьвед кантактаў зь некаторымі дзяржаўнымі чыноўнікамі Канады. Так, начальнік Усходнеэўрапейскага аддзелу Міністэрства замежных справаў Канады сп. Брукс заявіў, што Лукашэнка бяз абраны дэмакратычным шляхам, а спосаб, якім ён утрымоўвае ўладу, — рэч ня істотная. Супрацоўнікі аддзелу па правох чалавека таго-ж міністэрства паінфармавалі, што займаюцца тэарэтычнымі праблемамі, а ня практыкай, і таму яны не зацікавіліся фактамі рэпрэсіяў да ўдзельнікаў масавых акцыяў у Беларусі. Але такая пазыцыя канадыйскіх уладаў, на думку сп-ні Сурвіллы, мае простае тлумачэньне — урад Канады спадзяецца прадаць Беларусі атамную станцыю.

Тым ня менш, Старшыня Рады БНР знайшла падтрымку ў некаторых парлямантарыяў Канады. А Сакратар Рады сп-ня Р. Жук-Грышкевіч стварыла фонд імя Н. Арсеньневай у дапамогу рэпрэсаваным беларускім студэнтам. Навогул, дабрачыннасьць робіцца прыкметным накірункам дзейнасьці Рады: у бліжэйшыя дні некалькі дзясяткаў пацярпелых ад урагану жыхароў Нясьвіскага раёну атрымаюць гуманітарную дапамогу.

Калі ў Канадзе дыяспара мае праблемы ў дачыненьнях з уладамі, то ў ЗША наладжаныя трывалыя кантакты з Кангрэсам і дзяржаўным дэпартамэнтам. Больш таго — прызнана неабходным стварыць беларускае лобі ў Кангрэсе, па прыкладзе некаторых іншых дыяспараў. Паводле інфармацыі сп. В. Кіпеля, перамовы з сэнатарамі й кангрэсмэнамі ўжо вядуцца.

Удзельнікі паседжаньня абмеркавалі ўзаемадачыненьні з апазыцыйнымі сіламі ў Беларусі. На думку сп. А.Сільвановіча, Радзе пажадана супрацоўнічаць з максымальна шырокім колам апанэнтаў Лукашэнкі. Але пры гэтым трэба браць пад увагу, што ідэалы БНР — гэта ня проста дэмакратыя, але й нацыянальная незалежнасьць Беларусі. Прэзыдыюм Рады звярнуўся да АБСЭ з прапановаю накіраваць у Беларусь адмысловую камісію для вывучэньня фактаў дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце.

Сп. В. Кажан выказаў прапановы па фінансавых аспэктах дзейнасьці Рады, якія набываюць асаблівае значэньне ў сувязі з надыходам 80-ых угодкаў утварэньня БНР. Прынята рашэньне аб выпуску адмысловай паштоўкі, прысьвечанай гэтай даце, а магчыма, і паштовай маркі.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Постаці*

# УЛАДЗІМЕР ТЭРАЎСКІ

Нарадзіўся ён у мястэчку Раманава, што на Случчыне, у сям'і праваслаўнага сьвятара. Пад бацькоўскім уплывам хлапчук вырашае вучыцца таксама на сьвятара й едзе ў Слуцак. Пасьля сканчэньня чатырох клясаў Слуцкае Духоўнае Вучэльні ён трапляе ў сьцены Менскае Духоўнае Сэмінарыі, дзе атрымлівае першыя веды ў музыцы. А потым — служба ў царскім войску пісарам, праца ў Кантрольнай палаце, а пазьней — у Скарбовай (Казённай) палаце ў Менску. Толькі ўсё тое было далёка ад памкненьняў будучага кампазытара. Таму неўзабаве ён пакідае службу й уладкоўваецца спачатку псаломшчыкам, а затым рэгентам хору ў Старажоўскай царкве Марыі-Магдалены на былой ускраіне Менску. Расейская мова, што гучала ў сьценах сьвятыні, наўрад ці адпавядала настроям Тэраўскага, але гэта была музыка, да якой хінулася ягонае сэрца.

Ужо значна пазьней ён напіша музыку да лепшых беларускіх п'есаў 20-х гг. — «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-ваявода». Аднак сапраўдным посьпехам станецца пастаноўка першай беларускай музычнай драмы «На Купальле» Міхася Чарота. Паказаная ў кароткім часе больш за 100 разоў, яна стала любімым відовішчам менчукоў, арыі й дуэты зь яе ня толькі гучалі на канцэртах, але й апрацоўваліся іншымі кампазытарамі; усіх вабіла выразная нацыянальная афарбоўка, вытрыманасьць стылю, разнастайнасьць матываў. Ул. Тэраўскаму належыць таксама музыка да славутай «Беларускай марсэльезы» і гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Кампазытар у часе працы ў Беларускім дзяржаўным тэатры (з 1921 г.) спрычыніўся да ўзьнікненьня цэлага шэрагу хораў, сярод якіх у першую чаргу трэба назваць Беларускі Дзяржаўны Хор. Кіраваны ім яшчэ з часоў Беларускае хаткі на Камароўцы ў Менску, хор пашыраў і прапагандаваў беларускае нацыянальнае песеннае мастацтва. Рэпэртуар хору ствараўся ім самім.

Трэба заўважыць, што Тэраўскі адзін зь першых гэтак шырака выкарыстоўваў фальклёр у стварэньні сучаснай музыкі. Ужо ў 1922 г. Ул. Тэраўскі меў у сваім рэпэртуары каля 500 апрацаваных народных песьняў. Частку зь іх ён выдаў у Бэрліне ў зборніку «Беларускі лірнік», дзе ў прадмове падкрэсьліваў еднасьць уласных песьняў з традыцыяй народнага выкананьня — лірніцтвам, якое назваў тыповай беларускай зьявай. Асабліва востра выступаў ён супраць чужых, неўласьцівых беларусам мэлёдыяў, якія не адпавядалі, на ягоную думку, духоваму складу беларуса. «Беларускія сьпевы па сваёй пекнаце й багацьці, — пісаў кампазытар у прадмове да зборніка, — ня горшыя за іншыя, у іх, як у люстры, адбіваецца духовы настрой гаротнага селяніна». Тэраўскі пісаў, што народныя песьні, няхай яны й цяжкія часам па сваім складзе, маюць вялікае значэньне для захаваньня й разьвіцьця культуры.

Але ўся дзейнасьць кампазытара ў краіне, дзе нацыянальнае называлі нацдэмаўшчынай, вяла да заканамернага фіналу. Першы раз Ул. Тэраўскага арыштавалі ў 1922 г. за сувязь з беларусамі Польшчы. Дакладней, за ліст да яго Ф. Аляхновіча, які нехта перадаў у менскае ЧК. Відаць, допыт моцна падзейнічаў на кампазытара, бо ён прызнаўся нават у тым, што пад плітой падлогі ў царкве, у якой працаваў, перахоўваў рэвальвэр. Тады толькі, дзякуючы заступніцтву Пуроўскага, а потым і Чарвякова, ЧК выпусьціла Тэраўскага. Арышт быў нядоўгі, каля двух-трох тыдняў. Вясной 1934 г. яго арыштавалі другі раз, таксама за сувязь з Польшчай, ды выслалі ў смаленскае ЧК, адкуль праз заступніцтва Камісарыяту Асьветы зноў быў вызвалены ў жніўні.

Тэраўскага на нейкі час пакінулі на волі, фактычна забараніўшы працаваць. Апошні раз Тэраўскі быў арыштаваны на кватэры стрыечнай сястры, Надзеі Сапронаўны Заўсьцінскай. Прысуд: Поўнач бяз права ліставаньня за сваякамі. Аднак ёсьць падставы меркаваць, што Поўначы ён ня ўбачыў. Курапаты, Лошыца, катавальні НКВД ці якое іншае месца, упадабанае карнікамі, сталася апошнім прытулкам ведамага кампазытара Уладзімера Тэраўскага.

**Лявон Юрэвіч**

## НОВЫ CD ЗЬ БЕЛАРУСКАЮ МУЗЫКАЙ

У Нью-Ёрку ў Ellipsis Arts Records выйшаў патройны CD-альбом "Unblocked. Music of Central and Eastern Europe", які пачынаецца двума беларускімі праваслаўнымі сьпевамі з Супрасьльскага зборніка 1597–1607 гг. у выкананьні мужчынскага хору «Унія» (Менск). Наступныя дзьве песьні, народныя, насьпяваў фальклёрны гурт «Ліцьвіны» (Менск), першая зь іх гучыць *a capella*, другая — у суправаджэньні інструмэнтаў, вырабленых на ўзор аўтэнтычных беларускіх інструмэнтаў з 19. стагодзьдзя. Цэнтральнае месца на вокладцы дыскаў заняла выява дзяўчат зь «Ліцьвінаў». Зазначым, што беларускія нумары трапілі ў альбом дзякуючы рупнасьці Сяргея Багданава.

## СПРОБА ПАДПАЛУ АМБАСАДЫ

Уночы з 31 лістапада на 1 сьнежня 24-гадовы беларус учыніў спробу падпаліць амбасаду Расеі ў Стакгольме (Швэцыя) і спаліў аўтамабіль расейскага дыплямата. Пасьля затрыманьня паліцыяй ён заявіў, што такім чынам выказаў пратэст як супраць імпэрскай палітыкі Расеі ў дачыненьні Беларусі (на наступны дзень меўся пачацца візыт прэзыдэнта Расеі Б. Ельцына ў Швэцыю), так і супраць дзеяньняў беларускіх уладаў.

# З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

## ПЭРТ

**12 ліпеня** Беларусы Заходняй Аўстраліі адзначылі 55-ыя ўгодкі трагічнай сьмерці песьняра й прарока адраджэньня, патрона Беларуская Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі (Б.А. у З.А.) — Янкі Купалы. На праграму сьвяткаваньня склалася: абшырны даклад аб жыцьці й творчасьці песьняра, які зрабіў старшыня Б.А. у З.А. Міхась Рацкі-малодшы, а таксама дэклямацыя паэмы «Курган». Сьвяткаваньне закончылася пачастункам і абменам весткамі, атрыманымі з Бацькаўшчыны.

**18 жніўня** ў Пэрт на роварныя гонкі прыбыла зь Берасьця (Беларусь) выдатная спартоўка Людміла Гаражанская з сваім шматгадовым трэнарам Сяргеем Рабчуком. Спаборніцтвы адбыліся 29 жніўня а 20-ай гадз. на стадыёне ў Майдэ Вале. Людміла заняла 10-ае месца. Ведама, для Людмілы гэта не вялікае дасягненьне, але для нас, беларусаў Заходняй Аўстраліі, было гонарам бачыць сваю суродзічку ў гэтых сусьветных гонках жанчын-ваварыстак. Праз увесь час побыту ў Пэрце нашых гасьцей зь Беларусі, імі апекавалася спадарыня Марыя Мароз і ейны сын Алекс. Таксама госьцям шмат дапамог і доктар Анатоль Бразоўскі ды Б.А. у З.А. На Бацькаўшчыну нашы госьці адляцелі 1 верасьня.

**30 жніўня** а 1-ай гадз. адбыўся чарговы гадавы зьезд сяброў Б.А. у З.А. Вітаў прыбыўшых і адкрыў зьезд старшыня ўступаючай управы сп. Міхась Рацкі-малодшы. Кіраваў працаю зьезду сп. Алекс Мароз. Справаздачу дзейнасьці арганізацыі даў старшыня М. Рацкі-малодшы, грашовага стану — скарбнік А. Мароз. Абедзьве справаздачы былі праведзеныя гучнымі воплескамі. З прычыны вельмі добрага выкананьня ўступаючай управаю сваіх абавязкаў было прапанавана пакінуць управу ў поўным складзе на наступную кадэнцыю, што сустрэла згоду ўсіх прысутных. Пасьля афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак, у часе якога Міхась Рацкі-старэйшы вітаў гасьцей — Людмілу Гаражанскую й яе трэнара Сяргея Рабчука. Зь вітальным словам у адказ выступіў Сяргей Рабчук. Ён выказаў вялікае задавальненьне са спатканьня й шчыра дзякаваў за апеку над імі. За пыхтаваньне пачастунку належыцца шчырая падзяка сп-ні М. Мароз, Зосі й Марыльцы Ёлаб.

**Р.М.**

## СЫДНЭЙ

У апошні дзень аўстралійскай зімы — **31-га жніўня** — адбыўся штогадовы перавыбарчы сход сяброў Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Файрфілдзе. Пасьля зачытаньня пратаколу з апошняга агульнага сходу былі заслуханыя справаздачы старшыні, сакратара й скарбніка Клюбу. Са справаздачаў выявілася, што Клюб належыць да Сусьветнага Згуртаваньня Беларусаў «Бацькаўшчына» ў якасьці рэгіянальнай арганізацыі й ужо 2 гады сплочвае грашовыя складкі. Клюб сьвяткаваў усе нацыянальныя сьвяты й важнейшыя даты беларускага календара.

Клюб прызнаў аднаразовую грашовую ахвяру на фонд Сусьветнага Зьезду Беларускай Моладзі (які яшчэ не адбыўся). За справаздачны час было ўрачыста адзначана 20-годзьдзе беларускага радыё ў Сыднэі, зладжаны 2 пікнікі, супольная сустрэча Новага Году ды інш. Супольна з Гомэбушскай царквой быў адзначаны патройны юбілей айца Ігара Хлябіча: 15 год сьвятарства, 10 год душпастырскай службы ў Гомэбушы, 42-ія ўгодкі жыцьця. Ойча, многае Вам Лета!

Пасьля справаздачаў пачаліся выбары ўправы. Былі абраныя — на старшыню М. Лужынскі (адзіны кандыдат) і 9 дырэктараў: М. Антух – заст. старшыні, В. Пляхоцкі – сакратар, А. Бакуновіч – скарбнік, М. Бакуновіч і В. Марчэнка – гаспадарчыя рэфэрэнты й М. Ціхан, В. Ліпскі, М. Ляўдор ды В. Эльхановіч – дырэктары.

Зь вялікай прыемнасьцю вітаем новага дырэктара сп. Вячаслава Эльхановіча — рэдактара й дыктара беларускага радыё ў Сыднэі. Яго перадачы надзвычайныя, весткі заўсёды сьвежыя, ён супрацоўнічае з такімі журналістамі-дэмакратамі, як Сяргей Дубавец, Аляксандар Лашук, Сьвятлана Карнякова, Алесь Старыкевіч. Вялікі дзякуй, спадар Эльхановіч! Спадзяёмся, што Ваша прысутнасьць у новай Управе Клюбу прыцягне нам зьмену з навейшае іміграцыі, зь якою, без малых выключэньняў, мы не знайшлі супольнае мовы.

Як вынікае са справаздачаў, наш Клюб мае грашовы запас, і таму пастаноўлена выплаціць пазыку пад вэксэль (debentures). У вольных прапановах парушана справа зьмены назвы Клюбу ў ангельскай рэдакцыі з "Byelorussian" на "Belarusan". Паколькі статут зарэгістраваны на старым варыянт, а зьмена будзе каштаваць паважную суму грошай, пастанавілі адлажыць да наступнага агульнага сходу. Шмат хто зь сяброў крытыкаваў нашага рахункавода (auditors) за неахайнае афармленьне дакумэнтаў і павышаныя цэны. Сход рэкамэндуе на наступны год яго зьмяніць. Старшыня закрыў сход а 15:30, а нашыя сяброўкі Маня Супрунчык, Ванда Марчэнка й Міраслава Бакуновіч пачаставалі нас багатым і смачным абедам.

**М.Л.**

# СЬВ. ПАМЯЦІ АЙЦЕЦ ПРОТАПРЭСЬВІТЭР СЬВЯТАСЛАЎ КОЎШ



Сьвятой памяці а. протапрэсьвітэр Сьвятаслаў Коўш, Адміністратар беларускіх праваслаўных прыходаў у юрысдыкцыі Усяленскага Канстантынопальскага Патрыярха, адыйшоў ад нас 5 лістапада 1997 г., маючы 80 гадоў. Пахаваны ён на беларускіх праваслаўных магілках у Саўт-Рывэры. У дзень паховінаў царква імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай была перапоўненая людзьмі, якія прыйшлі, каб аддаць нябожчыку апошнюю зямную пашану. Чын паховінаў ачаліў япіскап Філатэос у суслужэньні архімандрыта Евангелёса, а. Мячыслава, а. ігумена Грэгоры, а. Сяргея Кухарскага й а. дыякана Міхаіла.

Айцец Сьвятаслаў у сан дыякана быў пасьвячаны яшчэ на Бацькаўшчыне, а ў сан ярэя быў рукапаложаны 6 лютага 1969 г. Амаль 10 гадоў праслужыў настаяцелем царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Нью-Ёрк, а пасьля быў настаяцелем царквы імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі.

Бацька ягоны, ведамы дзеяч на беларускай праваслаўнай ніве, а. Аляксандар Коўш, быў настаяцелем царквы Сьвятога Духа ў Вільні.

Падчас вайны Сьвятаслаў Коўш працаваў настаўнікам, а таксама ў беларускай адміністрацыі. На эміграцыі, у Нямеччыне, прымаў самы актыўны ўдзел пры арганізацыі беларускага лягеру Ватэнштэт, якім кіраваў пяць гадоў да свайго пераезду ў Амэрыку. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры й адразу ўключыўся ў беларускую грамадзкую й рэлігійную працу.

Вернаю спадарожніцаю ягонага жыцьця была матушка Вера (Багаткевіч). Яго асабістае жыцьцё ня было лёгкім. У 1962 г. трагічна гіне ў амэрыканскай арміі ягоны сын Анатоль, у 1983 г. памірае ягоны сын Алег, а ў 1987 г. — матушка Вера.

Дзякуючы прамоўніцкаму таленту, айцу Сьвятаславу заўсёды ўдавалася ў пропаведзях глыбока закрануць душы вернікаў. А ягоныя апрацоўкі беларускіх русалачных балядаў і казак карысталіся вялікім посьпехам у чытачоў.

Няхай яму будзе пухам амэрыканская зямля.

Няхай русалачныя баляды навяваюць яму прыгожыя сны аб любай яму Беларусі!

М.С.

### СЬПІС АХВЯРАДАЎЦАЎ НА КАРЫСЬЦЬ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ АД СУАЙЧЫНЬНІКА Ў ЗША Й КАНАДЗЕ (у далярах)

| | |
|---|---|
| Вітаўт і Зора Кіпелі | 120 |
| Сп. Драбышэўскі | 10 |
| Вера й Францішак Бартулі | 100 |
| Лявон Юрэвіч | 10 |
| Анатоль Тальпянскі | 20 |
| Алеся Сёмуха | 20 |
| Сьвятлана й Уладзімір Гладуны | 20 |
| Юры Лапіцкі | 20 |
| Алесь Міцкевіч | 10 |
| Францішка Рабушка | 5 |
| Сп. Халецкі | 5 |
| Людміла Кашына | 10 |
| Сяргей Трыгубовіч | 5 |
| Алесь Крыштаповіч | 10 |
| айцец Юры (Э. Рыжы) | |
| Зьміцер Левіт | 10 |
| Сяргей Мурог | 20 |
| Уладзімір Цепіца | 5 |
| Валеры Мілановіч | 5 |
| Пятро Рыжы | 4 |
| Антон Шукелойць | 100 |
| Антон Даніловіч (Золак) | 125 |
| Кастусь Акула | 100 |
| Аляксандар Сільвановіч | 100 |
| Адольф Субота | 100 |
| Уладзімір Машанскі | 10 |
| Янка Азарка | 10 |
| Васіль і Галіна Русакі | 100 |
| Сям'я Стагановічаў | 100 |
| Сям'я Няпеіных | 20 |
| Сям'я Каранеўскіх | 100 |
| Мікола Грэбень | 100 |
| Кацярына і Славік Вініцкія | 250 |
| др. Уладзімір Набагез | 500 |
| Мікола Прускі | 40 |
| Браніслаў Даніловіч | 100 |
| Віталь Кажан | 40 |
| Васіль Мельяновіч | 100 |
| др. Вітаўт і Вера Рамукі | 1000 |
| Расціслаў Завістовіч | 40 |
| др. Ала Рамана (Орса) | 100 |
| Віталь Зайка | 20 |
| Ванкарэм Нікіфаровіч | 50 |
| В.М. | 100 |
| Кастусь Калоша | 50 |
| Нікадэм Жызьнеўскі | 100 |
| Клара Пануцэвіч | 25 |
| Людвіка Беленіс | 25 |
| Мікола й Марта Кучуры | 20 |
| Васіль і Маргот Багданы | 15 |
| Генрых Сенкевіч | 25 |
| др. Барыс Рагуля | 150 |
| др. Ян Запруднік | 100 |
| Івонка Сурвілла | 200 |

### ПАДЗЯКА

за прысланыя матар'ялы А.Маркевічу, М.Грэбеню, С.Кузьняцову (Латвія), К.Вераб'ю, М.Швэдзюку, М.Латушкіну, В.Русаку (Аўстралія), В.Трэмбіцкаму, С.Мурогу, Ю.Махначу, У.Акавітаму, М.Раецкаму, Б.Даніловічу.

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Перасланa з Бэльгіі*

| | | |
|---|---|---|
| Я. Жучка | бэльгійскіх франкаў | 1000 |
| З. Смаршчок | | 1000 |
| І. Савко | | 1000 |
| А. Арэшка | | 700 |
| Р. Занкоўскі | | 600 |
| Л. Клыбік | | 500 |
| П. Барысік | | 500 |
| Разам | | 5300 |

***З спадчыны А. Лашука*** **$ 6,165**

| | |
|---|---|
| Э. і А. Норык | ам. дал. 50 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 40 |
| Ю. Найдзюк | 40 |
| І. Ільчук | 30 |
| К. Верабей | 20 |
| А. Тамлецкі | 20 |
| Праз С. Трыгубовіча | 51.04 |
| Т. і Г. Паланевічы ў памяць | |
| Н. Арсеньневай | 100 |
| Я. Сурвіллы | 50 |
| Клава Муха заміж кветак на сьвежую магілу Гіпаліта Паланевіча | 30 |

# ФОНД ПАМЯЦІ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Фонд заснаваны ў палове верасьня 1997 году ў Канадзе Выканаўчым Камітэтам Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

Ахвяры на Фонд прызначаныя на дапамогу студэнтам, якіх урад Беларусі выключае з унівэрсытэтаў за тое, што яны бяруць удзел у дэманстрацыях у абарону Беларусі, за тое, што яны гавораць па-беларуску, што яны далучаюцца да Беларускага Народнага Фронту й змагаюцца за незалежнасьць Беларусі.

21 верасьня 1997 г. у Таронце ў гонар паэткі Натальлі Арсеньневай адбыліся памінальныя ўрачыстасьці, у часе якіх на Фонд памяці Натальлі Арсеньневай зламжылі ахвяры

| | |
|---|---|
| Раіса Жук-Грышкевіч | ам. дал. 1,000 |
| Івонка Сурвілла | 200 |
| Арсень Монід | 200 |
| Надзя Баран | 20 |
| Элеанора Пітушка | 18 |
| Ліда Целеш | 10 |
| Вера Радэк | 10 |
| Барыс Кірка | 10 |
| Петронак Юля | 10 |
| Юры й Вольга Няпомняшчыя | 5 |
| Кастусь Акула | 5 |
| Раман Кардонскі | 5 |
| Раман Лаценькаў | 2 |
| | 1,495 |

Управа Фонду, у склад якое ўваходзяць: Раіса Жук-Грышкевіч (Канада), Івонка Сурвілла (Канада) і Галіна Русак (ЗША), дзякуе ахвярадаўцам і заклікае беларускае грамадзтва ахвярамі на Фонд аддаць пашану памяці Паэткі — аўтаркі гімну «Магутны Божа» — і гэтым памагчы моладзі, перасьледаванай урадам Беларусі за беларускую вызвольную дзейнасьць.

Чэкі-ахвяры на **Фонд Памяці Натальлі Арсеньневай** просім выпісваць на:

Raisa Zuk-Hryskievic
(in memory of N. Arsennieva)

і слаць на адрас:

Dr. Raisa Zuk-Hryskievic
54 Mary St.
Barrie, Ont. L4N 1T1

**УПРАВА ФОНДУ ПАМЯЦІ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ**

## ВІНШУЕМ!

Паважанага **ЯНКУ АЗАРКУ**, шчырага беларускага патрыёта й руплівага працаўніка на грамадзкай ніве з 75-мі ўгодкамі жыцьці, што споўніліся 17 лістапада сёлета, ды жадаем яму добрага здароўя й усякай памыснасьці ў далейшай працы на дабро Бацькаўшчыны.

### ВЫПРАЎЛЕНЬНЕ

У нэкралёгу па Л. Луцкевічу (№ 446) была няправільна пазначана дата нараджэньня. Трэба чытаць: 17 сакавіка 1922 году.